ГРАМАДЗЯНСКІЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ
КАСТРЫЧНІК 2013
ВЫДАЕЦЦА З 1997 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

ПАДЗЕЯ

# “Дух - гэта, людзі, я!”



**Штогод на Гомельшчыне праводзіцца свята паэзіі. Прымеркаванае да дня нараджэння паэта Анатоля Сыса яно знаходзіць месца для ўсіх: і для вяскоўцаў, і для дактароў навук. Як і сам паэт, свята паэзіі – разнастайнае і шматграннае.**

Кастрычнік – гэта месяц, калі вёска Гарошкаў, што ў Рэчыцкім раёне, ажывае. Прынамсі, на некалькі гадзінаў. Сюды з усіх куткоў Беларусі прыязджаюць паэты, барды і ўсе тыя, хто цікавіцца паэзіяй. Прыязджаюць для таго, каб узгадаць і ушанаваць памяць Анатоля Сыса. Ці, як кажа сястра паэта Тамара: “Сёння ў нас не памінкі, сёння ў нас свята. Анатоль любіў святы”.

Сёлетняе свята паэзіі не стала нейкім выключэннем. *Сюды прыехалі старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч, выкладчыкі ГДУ імя Ф. Скарыны, супрацоўнікі Веткаўскага музею, паэт Алесь Пашкевіч, паэт і крытык Міхась Клімковіч і многія іншыя. А таксама барды Вальжына Цярэшчанка, Андрэй Мельнікаў (НА ЗДЫМКУ), Зміцер Бартосік.*

Не абмінулі свята і жыхары вёскі Гарошкаў. Хтосьці прыйшоў сюды адразу пасля вясковых працаў. “Я тут жарабя кастрыраваў, -- кажа мне адзін вясковец. – Вось іду назад, а тут ужо ўсе сабраліся. Ну, я і завітаў”.

Падчас свята паэзіі хтосьці казаў пранікнёныя словы пра паэта. “Ён так любіў Беларусь. У яго была любоў дзікая да Беларусі”, -- сказала сястра паэта Тамара.

Хтосьці спяваў. Вальжына Цярэшчанка прэзентавала новую песню на словы паэта.

“Шрыфтам Брайля на калядным снезе
Птушкі вершы пішуць.
А чытаю – рукі змерзлі,
Свае руны мне не вышыць”, -- заспявала пранікнёным голасам Вальжына Цярэшчанка. Ды так, што ў аднавяскоўцаў Анатоля Сыса слёзы на вачах з'явіліся. “Добра спявае. Голас – як сыр”, -- падзяліўся сваімі ўражаннямі наведнік свята паэзіі і жыхар вёскі Гарошкаў.

Паэты і пісьменнікі казалі пра выданне новай кнігі Анатоля Сыса. “Пасля некалькі дзён пасля смерці Анатоля, праглядаючы яго архіў, дзе было шмат фотаздымкаў цікавых, было дзве тэчкі з творамі Анатоля. Іх забрала сястра. Гэта былі вершы, якія ён напісаў, калі быў студэнтам яшчэ”, -- распавёў літаратар Барыс Пятровіч. Сястра Анатоля Сыса Тамара спадзяецца, што знойдзеныя вершы будуць выдадзеныя асбнай кніжкай пад назвай “Берагі майго юнацтва”.

А хтосьці ўзгадаў неардынарную асобу Анатоля Сыса. У кулуарах узгадвалі як паэт прынёс свой дыплом выкладчыку на вычытку за дзень да абароны працы. Зайшоў ў кватэру да кіраўніка дыпломнай працы, аддаў яго і кажа: “Вы тут пачытайце пакуль, а я футбол у Вас пагляджу, а тое сёння нашыя граюць”.

Сёлетняе свята паэзіі думалі правесці ў школе, дзе навучаўся паэт. Але кіраўніцтва, як заўжды, перастрахавалася: перадумалі прадстаўляць памяшканне для аматараў творчасці Анатоля Сыса. І сапраўды, людзі ж розныя прыязджаюць. Не дай Бог яшчэ закрычаць “Жыве Беларусь” у школьных калідорах! Вось і давялося праводзіць свята паэзіі на падворку бацькоўскай хаты, дзе жыў Анатоль Сыс. Хаця, на маю думку, свята ад гэтага толькі выйграла.

***Даведка. Анатоль Сыс нарадзіўся 26 кастрычніка 1959 года. Скончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт. Працаваў старэйшым спецыялістам на Беларускім тэлебачанні. Памёр у 2005 годзе ў мінскай кватэры ад сардэчнага прыступу. Пахаваны ў Гарошкаве.***

**Амаль год спатрэбіўся навукова-метадычнай Радзе пры Міністэрстве культуры, каб прыняць урэшце рашэнне па звароце Гомельскай філіі ТБМ і ГА “Талака” аб наданні драўлянай забудове гістарычнага цэнтра Гомеля статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці.**

# Рашэнне Мінкульта:
## Валатаўскую знесці, Парыжскай камуны захаваць



23 кастрычніка адбылося паседжанне Рады, на якое не запрасілі арганізацый-заяўнікоў, але пры гэтым дзіўным чынам там прысутнічаў прадстаўнік забудоўшчыка. Паведамленне пра яго атрымалі толькі 24 лістапада, тады як рада адбылася 23-га. Па словах прадстаўнікоў міністэрства, рада правяла вялікую працу і ўлічыла ўсе акалічнасці дадзенай справы. Вынік: чатыром дамам па вуліцы Парыжскай камуны надаць статус помніка з прычыны іх кампактнага размяшчэння з перспектывай стварэння тут комлекса гістарычнай драўлянай забудовы.

Валатаўскую – знесці цалкам з захаваннем найбольш каштоўных элементаў дэкору з прычыны адсутнасці сродкаў на перанос будынкаў, калі на гэтым месцы ўжо год як будуецца элітны шматпавярховік. Пад знос мусіць пайсці і легендарны дом паВалатаўской, 17, дзе, паводле гарадскіх легендаў, дажывала апошнія дні княгіня Ірына Іванаўна Паскевіч. Да руху ў абарону драўлянай забудовы за гэты час далучылася вялікае кола неабыякавых людзей і арганізацый, былі праведзены дзесяткі экскрусій, акцый, збораў подпісаў, калектыўных і ідывідуальных зваротаў. Пісалі і замежнікі, і жыхары горада, і спецыялісты, і грамадскія актывісты.

**Ці быў шанец?**

Шырокую ўвагу да разбурэння драўлянага Гомеля прыцягнулі толькі цягам апошніх 2-3-х гадоў. За гэты час пра дадзеную тэму пісалі незалежныя і дзяржаўныя СМІ, сюжэты аб вартасці архітэктуры выходзілі на дзяржаўным і незалежным тэлебачанні. Пра праблему даведаліся ўсе, хто хацеў. Але…

Генеральным планам раён вызначаны пад знос. Калі і якім чынам прымаўся той генеральны план, звычайным жыхарам Гомеля, натуральна, не было вядома. Сюды ж прыйшоў інвестар з вялікімі грашамі і вырашыў будаваць свой дом. Ці спыталі ў гамельчукоў? Натуральна, што не. Ніхто не бачыў разліку прапускной здольнасці цэнтральных вуліц у гадзіны-пік, ніхто не сачыў, ці ў адапведнасці з законам плануецца і вядзецца будоўля. Дзяржаўныя ўстановы і аддзел культуры ў прыватнасці не прыклалі ніякіх намаганняў, каб паспрабаваць арганізаваць тут турыстычны квартал, як тое робяць у цывілізаваным свеце. Грошай няма, а ці шукалі вы інвестара? А калі такога знайшлі самі актывісты, чаму той адразу пасля падачы адпаведнай заявы яе забраў на наступны дзень? Чаму аткывісты літаральна лавілі чарговага чыноўніка, каб уручыць у рукі чарговую заяву, або проста паразмаўляць? Чаму ўсе парушэнні ў працэсе будовы знайшлі грамадскія актывісты, а не адпаведныя дзяржаўныя органы? Хто на кожную заяву неабыякавых даваў адпіскі і наўпрост, парушаючы заканадаўства, сыходзіў ад адказаў.

Дзяржаўная машына імкнулася нівеліраваць усе высілкі маладзёнаў, якія сталі ў абарону драўлянага Гомеля. Адмаўлялі ў пікетах, у круглых сталах, у грамадскіх абмеркаваннях, ігнаравалі подпісы дзесяткаў дактароў і кандыдатаў навук. Даходзіла да абсурду: каштоўнасцю не з'яўляецца, бо ў нас няма грошай. У сённяшняй Беларусі рашэнне чыноўніка нават са сферы культуры залежыць ад вертыкалі і ад магчымай эканамічнай карысці. Прыйдуць мільённыя інвестыцыі – знясуць, верагодна і Палац Паскевічаў, або яшчэ якое казіно ў ім арганізуюць і “гістарычнае” абгрунтаванне таму знойдуць. Тады турыстам у Гомелі ЗУСІМ не будзе што паказаць, пытанне толькі часу.
Шкада, што ва ўсёй гэтай гісторыі не знайшлося смелай (светлай, мудрай, адчайнай) асобы, якая б узяла на сябе адказнасць за гарадскую гісторыю. Чаму? Адказ на гэтае і ўсе пастаўленыя вышэй пытанні мы ведаем…

**Ці параза?**

Пры гэткіх умовах абаронцы забудовы абралі адзіную слушную тактыку: скарысталіся законным метадам і заблакавалі на цэлы год працэс зносу Валатаўской праз падачу неабходных дакументаў у Мінкульт, прыцягнулі ўвагу грамадскасці, прымусілі нервова адмахвацца чыноўнікаў і ўсхвалявана чытаць у СМІ рэакцыю грамадскасці. Валатаўская надоўга запомніцца і ў выканкаме і ў Мінкульце.

>>> 3

# «MUZ. SOLYANKA» - что это такое и с чем его едят

2 <<<

У рэшце рэшт памянялася і рыторыка адказаў: калі раней каштоўнасць дамоў не прызнавалася нікім і нідзе на дзяржаўным узроўні, то зараз сталі спасылацца выключна на адстунасць сродкаў для захавання.

Урэшце сёння некалькім будынкам па Парыжскай камуне нададзены статус каштоўнасці! І гэта ва ўмовах дзяржаўнай палітыкі скарачэння колькасці такіх культурных аб'ектаў!
Сёння можна казаць, што падрыхтавана глеба для стварэння дзяржаўнай праграмы па захаванню драўлянай архітэктуры як з'явы.
Зрэшты на 20-00 па беларускім часе 29 кастрычніка Валатаўская застаецца некранутай, а значыць і шанцы ў яе, як той казаў, ёсць. Рашэнне Мінкульта “не ікона”, і яно можа быць абскарджана ва ўсталяваным парадку.

А пакуль што традыцыйна запрашаем апошні (апошні?) раз прайсціся па легендарнай Валатаўскай, пафатаграфаваць восеньскі 17-ы дом, каб потым паказваць дзецям. Ну а самыя актыўныя могуць вось проста зараз напісаць электронны зварот у мінкульт і выканкамз патрабаваннем замарозіць знос Валатаўскай да пошуку інвестара, згоднага перанесці будынак у імаверны гістарычны квартал па вуліцы Парыжскай камуны, і абвесіць на дзяржаўным узроўні пра пошук такога , або распачаць дабрачынны рахунак, для акумуляцыі неабходных сродкаў.

***Яўген Якавенка, kli4nik.info***

*В октябре в Гомеле прошла необычная выставка под названием «MUZ. SOLYANKA». Чтобы понять, что это такое и с чем его едят, мы отправились в бар «Квартирник», где, собственно, и проходило сие действо.*

Нужно заметить, что очень удачным является ход организаторов провести выставку именно в таком неформальном месте. Только здесь работы могли найти именно своего зрителя, ведь здесь собираются абсолютно разные люди, у которых есть нечто общее. И это общее - музыка. О том, как возникла идея такой выставки рассказала нам организатор и молодая художница Алёна Яцкая:

*«Я давно и думала о том, что неплохо было бы организовать выставку совместно с такими же художниками, как я. Хотелось сделать что-то на музыкальную тематику. Параллельно с тем я узнала об открытии бара «Квартирник». Мне очень понравилась атмосфера и я поняла, что это именно то, что надо. Каждый художник здесь представляет всего по одной работе, в которой он должен отразить всё, что он чувствует. Моя работа «Без бокала нет вокала» исполнена в тёплом колорите, на ней изображены контрабасист, пианист и вокалистка, в руках у которой открытая клетка, а на плече сидит птичка. Это символизирует свободу».*

Такое количество творческих и необычных людей в одном месте встретить можно крайне редко. Интересно было пообщаться как можно с большим количеством из них, ведь только так можно в определённой степени «просветлиться». Узнать что-то новое об искусстве, вдохновении и о музыке. В толпе таллантливых и молодых мы встретили художницу Юлиссис Невмер:

*«Музыка нам очень близка: мы очень часто слушаем и наслаждаемся ей. Именно поэтому мы решили изобразить музыку так, как чувствуем. Только не с помощью нот, а с помощью кистей и холстов. Выставка называется«Солянка », потому что в ней произошло смешение стилей, смешение авторов и в принципе музыки: кто-то любит хип-хоп,кто-то джаз или же другие вещи. Лично мне очень нравится общаться с похожими на меня талантом ребятами. Я выбрала эту стезю, потому что на мой взгляд в этой жизни главное найти себя и понять что тебе нравится. А когда ты за это ещё и получаешь деньги – то это вообще замечательно. Я считаю, что искусством можно заработать на жизнь. Сейчас есть представление о том, что художники бедные, несчастные, но это скорее стереотип времён совдепа. Кто плохо рисует – тот плохо зарабатывает. В нашем мире главное уметь преподнести себя».*

Организаторы и художники по секрету рассказали нам, что им очень хотелось бы, чтобы такого рода выставки стали традиционными для бара «Квартирник».



# Альтэрнатыўная мапа Гомеля: метро, заапарк, дыназаўры...



**Вы ўпершыню наведалі Гомель і не ведаеце, куды пайсці? Альбо вы даўно жывеце ў абласным цэнтры, але мала пра яго ведаеце? Ці ведаеце шмат, але хочацца даведацца яшчэ болей? Тады альтэрнатыўная мапа Гомеля, створаная сябрамі краязнаўчай арганізацыі“Талака”, – гэта для Вас.**

“Часта можна пачуць, што ў Гомелі няма на што паглядзець, што гэта шэры горад.... Перакананыя ў адваротным, мы вырашылі паглядзець на наш родны горад інакш”, -- так палічылі стваральнікі альтэрнатыўнай мапы. Праца над яе стварэннем ішла некалькі месяцаў.

Аўтары размясцілі на ёй не толькі моцныя бакі горада, але і слабыя. А таксама пазначылі гарадскія легенды, фізічную і гарадскую актыўнасць, назвы гістарычных раёнаў. А самае галоўнае – свае прапановы і мары.

На мапе – 75 пунктаў. Сярод гарадскіх адметнасцяў – галубятня, “шакаладная алея”, помнік “прэвед-медведу”, вулічны мастак Валеры Ляшкевіч і многае іншае.

Гарадская актыўнасць прадстаўленая шахматыстамі, аматарамі арт-хаўсу, беларускіх танцаў, хэндмэйду, клубам “Што? Дзе? Калі?” і іншымі. Гарадскія легенды апавядаюць пра месца, дзе адбыўся першы афіцыйны футбольны матч Беларусі. Пра падземны лабірынт праз Сож. Пра знакамітага літаратурнага героя Лазіка Ройтшванеца, прыгоды якога ў Гомелі апісаў пісьменнік Ілля Эрэнбург.

Не абышлі стваральнікі мапы і крытычныя моманты гораду. Напрыклад, пра перанасычанне гораду рэлiктамі савецкай эпохі. Альбо пра віна-гарэлачны завод, які месціцца прама ў цэнтры і які так любяць аматары “чарнілаў”. Ці пра тое, што ў Гомелі знішчаецца ўнікальная драўляная забудова.

А вось сярод мараў складальнікі “альтэрнатыўнай мапы” пазначылі, да прыкладу, метро, заапарк, палеанталагічны музей, пешаходную вуліцу, аглядальную пляцоўку.

Як заўважаюць складальнікі, мапа складалася пры дапамозе метаду “крытычнага мапавання”. То бок самі ўдзельнікі вызначалі, што адлюстроўваць. “Гэта дазваляе паглядзець на звыклыя рэчы інакш”, -- заўважаюць аўтары праекту.

Зміцер Кірыенка -- студэнт-архітэктар 5 курса – кажа, што для яго ўдзел у стварэнні “альтэрнатыўнай мапы” шмат даў у асабістым плане. “Я болей даведаўся пра Гомель. Зразумеў, што можна інакш падыходзіць да складання праектаў. Я хачу такі нестандартны падыход выкарыстоўваць у сваёй будучай працы”, -- зазначыў Зміцер Кірыенка.

Старшыня гомельскай краязнаўчай арганізацыі “Талака” Яўген Меркіс патлумачыў, чаму на мапе пазначаные не ўсе гарадскія аб'екты: “Мапа не з'яўляецца абсалютным дапаможнікам. Гэта спроба павялічыць цікаўнасць да нашага горада”.

Пасля прэзентацыі “кратычнай мапы” Гомеля адбыўся выступ мінскага гурта “NAVI”, які запомніўся гомельскай публіцы. Прычым настолькі, што маладым выканаўцам давялося пасля міні-канцэрту раздаваць аўтографы.

“Альтэрнатыўная мапа” Гомеля была створаная ў межах кампаніі “Зробім лепш”.

# Музычны “Кірмаш праектаў”: ад школы аранжыроўшчыкаў да гуртка дыджэрыду

**Чарговы этап “Кірмаша праектаў” прайшоў у Гомелі. У гэты раз арганізатары вырашылі абмежавацца тэмай музыкі.**

У мерапрыемстве ўзялі ўдзел 10 праектаў, што з'яўляецца безумоўным доказам заможнасці Гомельшчыны на музычныя таленты. Нягледзячы на абмежаванасць па часе, усе выступоўцы змаглі вельмі лаканічна, дакладна і яскрава апісаць сутнасць сваіх ідэй.

Першымі творчае слова ўзялі музыкі гурта “Placetobe”, якія выканалі некалькі сваіх кампазіцый. Фішкай гурта з'яўляецца вакаліст Вадзім Міцько, якога ўжо даўно клічуць гомельскім Чэлентана. У дадатак да сваёй яркасці і харызматычнасьці, хлопец добра валодае майстэрствам ігры на губным гармоніку.

Першым свой праект прэзэнтаваў Вячаслаў Сухоцкі – стваральнік інтэрнэт-энцыклапеды гомельскай музыкі (go-music.by). Гэта першая спроба сабраць усю гісторыю развіцця музыкі ў Гомелі: на сайце прадстаўлены музычныя падзеі і з'явы ад пачатку 19 стагоддзя да нашых дзён. Таксама, на аснове матэр'ялаў сайту да друку рыхтуецца кніга пра гістарычнае музычнае мінулае горада.

Наступны выступоўца – Дзяніс Туміловіч прадставіў увазе публікі школу аранжыроўшчыкаў “NewMixStudio”, а таксама праект “Karaokestars”, дзе кожны жадаючы зможа выканаць песьню, а потым прадставіць яе ўвазе людзей на адмысловым сайце.

>>> 5

# **Музычны “Кірмаш праектаў”:** ад школы аранжыроўшчыкаў да гуртка дыджэрыду

**4 <<<**

Блюзмэн гурта “PlaceToBe” Уладзімір Малюкоў прадставіў канцэпцыю праекта “Фэст вулічных мастацтваў. Фэст ужо рэалізоўваўся ў 2011 годзе, але тады не атрымалася дасягнуць першапачатковай мэты – пешаходнай вуліцы. Адміністрацыя горада вылучыла для мастакоў толькі маленькі пляцык перад лялечным тэатрам.

Цікавы праект караоке-складанкі прадставілі актывісты гомельскіх арганізацый “ТБМ” і “Талака”. Маладзёны вырашылі стварыць і сабраць караоке-версію беларускіх песняў усіх часоў і стылёвых напрамкаў.

Малады дыджэрыдыст Кара прэзентаваў ідэю стварэння курсаў па ігры на аўстралійскім музычным інструменце. Хлопец распавёў некалькі цікавостак пра дыджэрыду, а таксама прадэманстраваў мастацтва ігры на ім.

Менскі госць з гурта “LikeaGossamer” Дзяніс Голін прадставіў праект ужо амаль гатовага дыска “Клятва вернасці”.




Выданне прадстаўляе сабой друкаваную частку з тлумачэннямі і тэкстамі песняў, а таксама плытку, трэкі на якой непарыўна звязаныя паміж сабой.

Музыка патлумачыў, што на дадзены момант гурт шукае сродкі на выданне дыска.





Прэзідэнцкія выбары ў Грузіі **>>>6**

# Прэзідэнцкія выбары ў Грузіі*

*Група незалежных кароткатэрміновых міжнародных назіральнікаў, акрэдытаваных ад арганізацыі Belarus Watch, сачыла за прэзідэнцкімі выбарамі ў Грузіі, што адбыліся 27 кастрычніка 2013 года. 36 назіральнікаў, сярод якіх былі прадстаўнікі няўрадавых арганізацый, СМІ і студэнты ЕГУ, наведалі 205 выбарчых участкаў па ўсёй краіне.*

**Марына ЯЎСЕЙЧЫК**

Нягледзячы на нязначныя адхіленні ад выбарчага заканадаўства, праведзеныя выбары атрымалі станоўчую адзнаку.
У прыватнасці, беларускія назіральнікі адзначаюць высокі ўзровень арганізацыі выбарчага працэса.

Дзень галасавання ў Грузіі праходзіў спакойна, без надзвычайных падзей. На пераважнай колькасці участкаў, наведаных беларусамі, былі створаны ўсе неабходныя ўмовы для назірання: члены камісій дазвалялі займаць любую зручную пазіцыю для назірання, рабіць фота і відэа, прадстаўлялі ўсю неабходную інфармацыю. Стаўленне ж з боку камісій да назіральнікаў і выбарцаў, ацэньвалася як дабразычлівае і адкрытае. Таксама высока быў ацэнены прафесіяналізм членаў камісій, якія здолелі арганізаваць выбарчы працэс, прытрымліваючыся ўсіх пазначаных у грузінскім заканадаўстве працэсуальных норм. У дачыненні да гэтага,

у беларускіх назіральнікаў выклікала вялікую зацікаўленасць працэдура галасавання, кожны этап якой прапісаны ў грузінскім заканадаўстве такім чынам, што амаль не дапускае розначытанні.

Усе этапы, пачынаючы ад жрэбію паміж членамі камісіі для размеркавання функцый і заканчваючы расстаноўкай мэблі на выбарчым участку, дакладна апісаны […].

Місія была арганізавана ў межах міжнароднага адукацыйнага пректа “Назіранне за выбарамі: тэорыя і практыка” (EOTP), які рэалізуецца сумесна з BelarusWatch, ЕГУ і Беларускім Домам правоў чалавека імя Барыса Звозскага. Папярэднія місіі праекту ладзіліся ў шэрагу іншых еўрапейскіх краін, а таксама ў Беларусі.
Праект дае маладым беларусам магчымасць знутры зірнуць на палітычныя працэсы, азнаёміцца з выбарчымі сістэмамі іншых краін і вопытам незалежных назіральнікаў, каб потым прымяніць набыты вопыт у Беларусі.

Выбарчы працэс на ўчастку для галасавання
Адметнасць сёлетнішніх прэзідэнцкіх выбараў у Грузіі, які сталі шостымі па ліку, у тым, што з прэзідэнцкай мадэлі кіравання, краіна пераходзіць на змешаную мадэль. Пасля прысягі новага прэзідэнта набудуць моц новыя канстытуцыйныя палажэнні, якія былі прыняты тры гады таму. Так, прававая роля прэм'ер-міністра будзе павялічана за кошт скарачэння паўнамоцтваў



прэзідэнта.
Улада ў Грузіі мяняецца без пратэстаў і без датэрміновых выбараў.

Краіна неаднаразова прайшла праз шматлікія палітычныя пераўтварэнні, дасягнуўшы дэмакратычных і спакойных выбараў. Пабыць у Тбілісі ў якасці назіральніка за выбарамі і параўнаць выбарчую працэдуру Грузіі і Беларусі, дзвюх краін, якія атрымалі дзяржаўную незалежнасць у 1991 годзе – сапраўды пазнавальна.

Участковая выбарчая камісія складаецца з 13 чалавек, 6 з якіх выбіраюцца Акруговай выбарчай камісіяй, а 7 прызначаюцца партыямі. Як таго і патрабуе Выбарчы Кодэкс, чальцы выбарчай камісіі апранутыя ў спецыяльную форму […].

Празрыстыя скрыні для галасавання. Вялікая — асноўная, а маленькая — для хатняга галасавання. Старшыня камісіі апячатвае абедзьве скрыні для галасавання спецыяльнай налепкай з унікальным нумарам […].

>>> 3

**6 <<<**

Цікава, што ў Грузіі маюць права голаса тыя грамадзяне, што чакаюць суду і хто ўжо атрымаў вырак. Таксама людзі, пазбаўленыя волі не больш, чым на 5 год (толькі пры наяўнасці ID — індэфікацыйнай карткі). Галасаваць могуць нават асобы з псіхічнымі адхіленнямі […]..



**Падлік галасоў**

Для акрэдытаваных асоб ад кожнай з арганізацый дзейнічала правіла "дзесяці мінут", на працягу якіх можна было фатаграфаваць і здымаць на відэа ўвесь выбарчы працэс.

***Члены камісіі, якія падлічвалі бюлетэні, пытальна ўглядаліся ў аб'ектыў: "Вы журналіст? Будзеце паказваць нас па тэлебачанні?" Аднак тады я была ў ролі назіральніка, акрэдытаванага ад арганізацыі Belarus Watch.***

Выбарчы ўчастак закрыўся ў 8 гадзін вечара (як і па беларускім заканадаўстве). У памяшканні засталіся толькі члены выбарчай камісіі і назіральнікі.

Сакратар выбарчай камісіі ўносіць у пратакол дадзеныя ўсіх прысутных. Пасля гэтага робіць другі спецыяльны надрэз на пячатках, якія ставілі на бюлетэнях для галасавання, што таксама пазначаецца ў пратаколе. Члены камісіі здымаюць спісы выбаршчыкаў […].

Да працэса падліку бюлетэняў шляхам жрэбію выбіраюць 3 членаў камісіі, якія і будуць лічыць бюлетэні. Адначасова з гэтым сярод назіральнікаў выбіраецца 2 чалавекі для назірання за падлікам непасрэдна за сталом (па ўзаемнай дамове, калі да кансэнсусу не прыходзяць – шляхам жрэбію).

З прадстаўнікоў палітычных суб'ектаў, якія прысутнічаюць на ўчастку, старшыня камісіі шляхам жрэбію выбірае 2 чалавекі, якія таксама будуць удзельнічаць у падліку галасоў разам з членамі камісіі. Члены камісіі, што падлічваюць галасы, становяцца на адным баку стала. Старшыня камісіі становіцца так, каб бачыць усіх, хто падлічвае. Сакратар камісіі становіцца каля старшыні, каб весці пратакол.

Астатнія аўтарызаваныя асобы займаюць месца за 2 метры да стала, дзе адбываецца падлік. 2 прадстаўнікі ад назіральнікаў і 2 прадстаўнікі ад палітычных суб'ектаў знаходзяцца побач з членамі камісіі, якія будуць праводзіць падлік.

Член выбарчай камісіі вымае бюлетэнь з канверта, абвяшчае за каго быў аддадзены голас, перадае бюлетэнь іншым членам камісіі для сарціроўкі па стосах, а канверт кладзе асобна. Копія фінальнага пратакола, які падпісваецца ўсімі членамі выбарчай камісіі.

Па заканадаўству, калі член камісіі не згодны з пратаколам, ён усё роўна абавязаны яго падпісаць, пасля гэтага напісаць ад рукі прычыну нязгоды. Фінальны пратакол вывешваецца на ўчастку на бачным месцы. Кожная аўтарызаваная асоба можа атрымаць копію пратакола, за якую яна абавязана распісацца ў сакратара. Цікава, што на кожным выбарчым участку акрамя прынтэра павінны быць свечкі і ліхтарык — на той выпадак, калі здарацца перабоі з электрычнасцю.

***_Друкуецца са скарачэннямі_**



# Сродкі масавай інфармацыі **паведамляюць…**

**22.10.2013**
**spring96.org:**

«Інфармацыйны вакуум, які, па дадзеных сацыялагічных даследванняў, дагэтуль захоўваецца вакол тэмы смяротнага пакарання ў нашай краіне, вырашылі змяніць актывісты кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі".

Яны, разам з рэгіянальнымі прадстаўнікамі Праваабарончага цэнтру "Вясна" ды актывістамі іншых грамадскіх рухаў арганізоўваюць сустрэчы-дыскусіі, прысвечаныя гэтай актуальнай праблеме.

Зусім нядаўна падобная сустрэча адбылася ў Рэчыцы, а ў мінулыя выходныя тэма смяротнага пакаранняя абмяркоўвалася ў Мазыры і Слоніме. У якасці эксперта ў дыскусіях браў удзел каардынатар кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання" Андрэй Палуда.

Праваабаронца распавядаў пра дзейнасць кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі", закраналіся такія аспекты, як незваротнасць такога пакарання, як смяротнае, прыводзілся важкія аргументы супраць смяротнай кары, статыстыка смяротных прысудаў у Беларусі».

**22.10.2013**
**kli4nik.info:**



«Маладыя аўтары Ася Волкава, Павал Капанскі, Юля Якубовіч і Ліна Казакова прэзентавалі свае кнігі, якія выпусціла выдавецтва "BYBOOKS", падзяліліся літаратурным досьведам і натхнілі гомельчукоў пісаць і займацца творчай дзейнасцю.

Сустрэча была насычана душэўнымі песнямі ў выкананні Андрэя Хадановіча. Менавіта на яго тры вершы было прапанавана напісаць рэцэнзію і атрымаць рыдэр "Kindle". Вынікі будуць абвешчаны ў бліжэйшы час.

"BYBOOKS" - электроннае выдавецтва з Беларусі, якое падтрымлівае айчынных творцаў і дапамагае ім публікаваць і папулярызаваць свае творы».

**29.10.2013 11:34**
**vetka-museum.by:**

«27 кастрычніка ў вёсцы Неглюбка Веткаўскага раёна адбыўся працяг гомельскага фестывалю "Кросенцы" пад аналагічнай назвай.

Шмат хто з супрацоўнікаў музея так ці інакш удзельнічаў у неглюбскім свяце: загадчык філіяла Пятро Цалка далучыўся да арганізацыі, навуковы супрацоўнік Людміла Новікава і дырэктар Галіна Нячаева зладзілі майстар-клас па апрананні неглюбскага строя, Наталля Багданава (гурт "Бан-Жвірба") і Валянціна Міронава (гурт "Млын Сонца") узялі ўдзел у канцэртнай праграме фестывалю…

Была ў гасцей свята магчымасць не толькі паглядзець, як апранаецца складаны неглюбскі строй, даведацца аб прызначэнні ўсіх яго элементаў, але і навучыцца вырабу некаторых яго атрыбутаў: гарячкі - бісернага жаночага ўпрыгожання, кубка - дзявочага галоўнога ўбора. Майстар-класы праводзіліся згуртаваннем "Ніток" неглюбскага цэнтра ткацтва. А напрыканцы свята адбыўся майстар-клас па бытавых танцах на чале са "Стаўбунскімі вячоркамі".


ИНФОРМАЦИОННЫЙ БЮЛЛЕТЕНЬ

Алексей Коваль, а/я 28, 246003, Гомель. Тираж 299 экз.